❑ *Беларус страляе ў беларуса... Чачэнская трагедыя?* 1-я стар.

❑ *Дэпутаты новага парламента спрабуюць абараніць беларускую мову.* 1-я стар.

❑ *Праблема грамадства: мнагадзетныя сем'і.* 2-я стар.

❑ *Крымінальныя гісторыі: клафелін для афрыканцаў.* 4-я стар.



# ЗВЯЗДА

24 студзеня 1996 г. серада, № 22 (22825)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 700 рублёў


## РОЗГАЛАС

### РЭХА ТРАГЕДЫІ Ў ПЕРШАМАЙСКІМ ДАКАЦІЛАСЯ ДА БЕЛАРУСІ

**Днямі, а дакладней, у мінулую пятніцу, прыйшла пахавальная ў вёску Самойлавічы, што пад райцэнтрам Бяроза. Маці Аляксандра Застаўнага адпаведныя расійскія службы паведамілі, што яе сын загінуў у баях пад Першамайскім.**

Як нам удалося ўдакладніць, Аляксандр родам з Самойлавіч, яму было 29 гадоў. У атрад «Альфа», які таксама быў задзейнічаны ў падзеях пад Першамайскім, ён трапіў пасля службы ў палку аховы. Справа вызвалення заложнікаў, якіх узялі чачэнскія баевікі, стала апошняй у яго жыцці. Учора Аляксандра пахавалі на радзіме.

**Ігар РЫГОРАЎ.**

### БЕЛАРУС ПАД СЛЕДСТВАМ

**Па факту ўдзелу беларуса ў ваенных дзеяннях у Першамайску, дзе Грабянюк на баку Радуева выконваў абавязкі мінёра, зараз расійскім бокам вядзецца следства.**

Аб гэтым карэспандэнту нашай газеты паведамілі ў прэс-службе КДБ. Следства павінна ўстанавіць, якая ступень удзелу беларуса ў ваенных аперацыях, якім чынам ён аказаўся ў шэрагах чачэнскіх баевікоў, наёмнік Грабянюк ці добраахвотнік. У бліжэйшы час гэтыя пытанні павінны быць высветлены, аб чым, дарэчы, «Звязда» паведаміць чытачам дадаткова.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### І ВЕГЕТАРЫЯНСТВА НЕ ПАРАТУНАК

**Цэны робяць сваю маўклівую справу — растуць, растуць і яшчэ раз растуць. І гэта ў той час, калі насельніцтва ў большасці сваёй не адчула ў кішэнях прыросту ў зарплаце і пенсіях.**

Свініна ў крамах каштуе ў сярэднім па 32500 рублёў за 1 кілаграм (за любыя кавалачкі — і са сцегняка, і з шыі). Рынычныя ж цэны на свініну вагаюцца ў межах ад 20 да 50 тысяч рублёў за той жа 1 кілаграм. Як правіла, бліжэй да верхняй мяжы. Да 50 тысяч за 1 кг даходзіць і кошт цяляціны. Можна было б з гаспадарчай сумкай і абмінуць мясныя рады, пакінуўшы па-за ўвагай высокія цэны.

Што ж тады купляць? Каўбасу самую танную? Але ж і яна цэнамі не радуе. «Доктарская» каштуе 36000 рублёў за 1 кг, «Дняпроўская» — 26200 рублёў за той жа кілаграм, «Прыма» — 35800 (таксама за кілаграм).

Магчыма, паратунак у вегетарыянскім харчаванні? Дык раю і на гэты конт не надта жывіць ілюзію: бульба зараз каштуе ў звычайнай краме 4000 рублёў за 1 кг, буракі чырвоныя — 2500 рублёў, морква — 5300 рублёў за 1 кг.

Дык можа тады есці рыбу? На рынку хапае і скумбрыі, і траскі, і нават хека. Скумбрыя больш схільная да вагання цэн (кошт яе залежыць ад велічыні рыбіны — ад 18000 да 21000 рублёў за 1 кг. Можаце параўнаць: у «Акіяне» скумбрыя каштуе 20000, а свежамарожаная стаўрыда — 14300 рублёў за 1 кг. Свежы карп той жа вагі — 19500 рублёў). Траску на рынку можна набыць па цане 21000 рублёў за 1 кг. Самы дарагі хек — 1 кг яго каштуе 25000 рублёў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

### ВОСЬ ТУТ І ЖЫВІ

**Поўнасцю ці часткова не атрымалі яшчэ і дагэтуль заработную плату, якая ім была налічана летась, больш як двесце тысяч працаўнікоў Гомельшчыны.**

Так, работнікі аб'яднання «Белэмальпосуд» — з мая, пластмасавых вырабаў і фабрыкі «Трыкатажзбыт» — з ліпеня, а з лістапада — большасці прадпрыемстваў. Наогул, у прамысловасці вобласці чакаюць зробленага 92 тысячы чалавек.

У сельскай гаспадарцы становішча яшчэ горшае. Запазычанасць па зарплаце ў калгасах і саўгасах складае 87 мільярдаў рублёў. За леташні чэрвень не змог разлічыцца з людзьмі саўгас «Дубавіцкі» Буда-Кашалёўскага раёна, за ліпень — 14 і за жнівень — 58 гаспадарак. І гэта ў той час, калі зарплата ў працаўнікоў сяла ніжэйшая, чым у іншых катэгорый працуючых. Вось тут і жыві...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### НЕ Ў СВІСТОК ПАЙШЛА ПАРА

**Паравоз, аказваецца, яшчэ не стаў гістарычнай рэліквіяй. У аб'яднанні «Крычаўцэментashыфер», як паведамляе раённая газета «Ленінскі кліч», яго прыстасавалі для атрымання пары, здольнай ацяпляць вытворчасць.**

Звярнуць увагу на «музейны» лакаматыў як на крыніцу энергіі цэментнікаў прымусіў дыктат манапаліста — мясцовай ЦЭЦ, якая пастаўляла цяпло па «непад'ёмных» цэнах. Як толькі энергетыкі даведаліся, што ў аб'яднанні збіраюцца прыцягнуць з запаснога пуці яшчэ адзін паравоз, яны тут жа знізілі кошт сваіх паслуг у два разы.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

### НАФТА З РАСІІ — НА ДАГАВОРНАЙ АСНОВЕ

**Дагавор паміж Беларуссю і расійскім акцыянерным таварыствам «Сургутнафтагаз» падпісаны ў Мінску 22 студзеня.**

Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведаміў прэзідэнт Беларускага дзяржаўнага канцэрна па нафце і нафтапрадуктах Антон Лойка. Дакументам прадугледжаны пастаўкі нафты на Наваполацкі нафтаперапрацоўчы завод у аб'ёме 4,8 мільёна тон у год у абмен на прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў.

Паводле слоў Антона Лойкі, першыя тоны нафты ў рэспубліку паступілі ўжо.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

### БЕЛАРУСКАЯ ПРАКУРАТУРА ЗАЯЎЛЯЕ, ШТО ПА РОЗНЫХ ПРЫЧЫНАХ НЕ МОЖА ВЫДАЦЬ ЛІТВЕ ГРАМАДЗЯН, ЯКІХ ТАЯ ПАТРАБУЕ

**Як паведамілі некаторыя расійскія сродкі масавай інфармацыі, завершана следства аб загаворы з мэтай звяржэння законнай улады ў студзені-жніўні 1991 года ў Літве. Пракуратура гэтай краіны перадае матэрыялы следства ў суд. Але судовы разбор пагражае зацягнуцца, таму што Расія і Беларусь, на тэрыторыі якіх пражываюць некаторыя абвінавачваемыя, перашкаджаюць выдачы іх Літве.**

Карэспандэнт БелаПАН папрасіў пракаменціраваць гэтае паведамленне начальніка аддзела па надзоры за следствам рэспубліканскай Пракуратуры Івана Зуя. Па яго словах, у запытах літоўскай пракуратуры, якія паступілі яшчэ ў 1994 годзе, былі ўказаны наступныя прозвішчы: Йонене, Шурупаў, Усхопчык, Лазутка, Высоцкі і іншыя.

Што ж да былога каменданта Вільнюса, а цяпер — камандзіра корпуса Узброеных сіл Беларусі Усхопчыка, то ён з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь. А значыць, згодна з артыкулам 10 Канстытуцыі РБ, «... не можа быць выдадзены замежнай дзяржаве». Прыкладна тое ж гаворыцца і ў артыкуле 64 двухбаковага дагавора паміж Літвой і Беларуссю «Аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах». У падобных выпадках не выдаюцца таксама асобы, якія атрымалі палітычнае прыстанішча.

Да таго ж двухбаковы дагавор прадугледжвае наступнае: калі грамадзянін Беларусі ўчыніў злачынства ў Літве і схаваўся на тэрыторыі сваёй рэспублікі, то літоўскі бок прадастаўляе ўсе матэрыялы, якія датычацца ўчыненага злачынства, а расследаванне, суд, пакаранне — гэта ўжо «галаўны боль» беларускіх праваахоўных органаў. Беларуская пракуратура неаднаразова ставіла пытанне перад літоўскімі калегамі аб прадастаўленні матэрыялаў і доказаў віны Усхопчыка, каб паралельна правесці самастойны разбор. Але Літва гэта так і не выканала.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
**у камерцыйных банках на 23 студзеня 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11700 | 12100 | 7900 | 8300 | 2.35 | 2.65 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11650 | 12200 | 7800 | 8300 | 2.35 | 2.60 | |
| Белзнешэканомбанк | 11600 | 12200 | 7800 | 8400 | 2.25 | 2.55 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11900 4720 | 12100 4820 | 8000 | 8400 | 2.48 | 2.60 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11600 | 12200 | 7700 | 8500 | 2.10 | 2.45 | 372-826 |
| Народны банк | 11800 | 12200 | 8000 | 8300 | 2.40 | 2.55 | 238-610 |
| Ф-л №1 АКБ «Алімп» | 11800 | 12300 | 7900 | 8200 | 2.35 | 2.50 | 291-646, 067 |
| ФФФ | 11700 | 12200 | 7900 | 8400 | 2.40 | 2.80 | |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7834.85 | | 2.47 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4683 | | 3189.40 | | 100 бел.р.38.00 | | |

* — Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік
** — Аперацыя праводзіцца толькі за безнаяўны разлік
*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах



*Зімовае сонца. Імкнуцца ўстаць са снежнай пасцелі цені.*

**Алесь РАЗАНАЎ, «Пункціры».**

Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.

### ПІСЬМО ПРЭЗІДЭНТУ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ Б. М. ЕЛЬЦЫНУ І ПРЭЗІДЭНТУ УКРАІНЫ Л. Д. КУЧМУ

У чэрвені 1994 г. па ініцыятыве Міжнароднага фонду славянскага пісьменства і культуры на стыку граніц Беларусі, Украіны і Расіі быў урачыста ўстаноўлены Брацкі Паклонны Крыж славянскіх народаў у імя славянскіх асветнікаў святых Кірылы і Мяфодзія.

У прадаўжэнне пачатага ў чэрвені 1995 г. па благаславенню Найсвяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II на гэтым жа святым месцы быў пакладзены першы камень у падмурак Свята-Троіцкага храма, які асвячае землі і народы Расіі, Украіны і Беларусі ў іх гістарычным адзінстве.

Урачыстае асвячэнне храма плануецца правесці ў год святкавання 2000-годдзя Ражства Хрыстова. Думаецца, што гэта падзея стане сапраўды славянскай і сапраўды ўсенароднай, калі рашэнне аб будаўніцтве Свята-Троіцкага храма і пасільным у ім удзеле будзе ўзгоднена і прынята на самым высокім міждзяржаўным узроўні, падтрымана грамадскімі арганізацыямі, палітычнымі партыямі і рухамі Расіі, Беларусі і Украіны.

Праваслаўная царква заўсёды несла ў сабе ідэю сабornасці, духоўнасці, этнічнай цэласнасці славян. Будучы перакананым у Вашай падтрымцы гэтай высакароднай справы, спадзяюся, што і сёння наша адзіная праваслаўная вера дазволіць славянам выстаяць у гэты нялёгкі перыяд, згуртавацца і заняць дастойнае месца ў духоўным развіцці сусветнай цывілізацыі.

Шчыра Ваш

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*12 студзеня 1996 года.*

### АБСТАНОЎКА Ў БЕЛАРУСКІМ ПАРЛАМЕНЦЕ ЗАМЕЖНЫМ ПАЛІТЫКАМ СПАДАБАЛАСЯ

Вярхоўны Савет Беларусі дзейнічае, а гэта азначае, што краіна ідзе дэмакратычным шляхам — такая агульная думка парламентарыяў Англіі, Германіі і Францыі, якія пабывалі 19 студзеня на пасяджэнні сваіх беларускіх калег. Як паведамлялася ўжо, група замежных палітыкаў прыбыла ў Беларусь для ўдзелу ў другім Нацыянальным кангрэсе «Беларусь на парозе двух стагоддзяў і двух тысячагоддзяў».

— Асабіста мяне прыемна здзівіла спакойная, дзелавая абстаноўка ў вашым Вярхоўным Савеце, — сказаў карэспандэнту БЕЛТА член брытанскага парламента ад лейбарысцкай партыі Джым Каўзінс. — Мы прысутнічалі на выбранні старшыні камісіі па галоснасці. Працэдура абмеркавання кандыдатур праходзіла вельмі карэктна і дакладна. Хутка мы сталі сведкамі, як калегі віншавалі дэпутата Ігара Катлярова з выбраннем на гэту важную пасаду. У нашым жа парламенце нярэдкія грубыя выпады ў адрас адзін аднаго, з'едлівыя насмешкі і нават пагрозы. Раю беларускім калегам не пераймаць такі «дэмакратычны» вопыт.

Замежныя парламентарыі сустрэліся з лідэрамі фракцый Вярхоўнага Савета. Адбыўся ажыўлены абмен думкамі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**



## У ЭКАНОМІЦЫ КРАІНЫ ЗАКЛАДЗЕНЫ АСНОВЫ ДЛЯ РУХУ НАПЕРАД

**Вынікі работы прамысловасці і паліўна-энергетычнага комплексу за мінулы і задачы на 1996 год, а таксама шляхі іх вырашэння разгледжаны 23 студзеня на рэспубліканскай нарадзе ў Мінску. У ёй прынялі ўдзел кіраўнікі прадпрыемстваў, Службы кантролю Прэзідэнта, прадстаўнікі банкаў і кіраўнікі выканаўчай улады.**

Як адзначыў кіраўнік нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, які выступіў на нарадзе, вынікі мінулага года дазваляюць сцвярджаць, што ў эканоміцы рэспублікі закладзены асновы для далейшага руху наперад. На яго думку, галоўнымі прадпасылкамі з'явіліся пэўныя поспехі, замацаваныя на макраэканамічным узроўні. Амаль у 2 разы зменшыліся тэмпы зніжэння валавога ўнутранага прадукту, стабілізаваўся валютны курс. Рост цэн апярэджвае рост зарплаты на 6 працэнтаў, рэзка зніжаны тэмпы інфляцыі. Усё гэта дазволіла замарудзіць тэмпы зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Прэзідэнт выказаў думку, што ў гэтым годзе неабходна замацаваць станоўчыя тэндэнцыі і не дапусціць павароту назад на шляху выхаду з крызісу.

З асноўным дакладам на нарадзе выступіў намеснік прэм'ер-міністра Валерый Кокараў.

У першай палове дня справаздачу аб праведзенай рабоце зрабілі міністр прамысловасці Уладзімір Куранкоў, прэзідэнт канцэрна «Белхімнафтапром» Анатоль Мардашоў, іншыя кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў.

**БЕЛТА.**

## У НАМЕРАХ ГЛАДКА. А НА СПРАВЕ?

**Новы, 1996 год прамысловасць Гомельшчыны сустрэла несуцяшальнымі вынікамі: яе калектывы недадалі прадукцыі на 2236,8 мільярда рублёў.**

70,1 працэнта прадпрыемстваў дапусцілі спад вытворчасці і толькі 29,9 працэнта з іх працавалі стабільна. Сярод іх аб'яднанні «Хімвалакно», «Гомельдрэў», заводы вагонарамонтны, электратэхнічны, «Мазырсельмаш», меліярацыйных машын, метызны, акцыянернае таварыства «Шпалеры» і інш. Астатнія ж працавалі ва ўмовах скарочанага рабочага тыдня ці з частковым спыненнем цэхаў, вытворчасцей або з няпоўнай загрузкай магутнасцей. А ў апошнім месяцы года цалкам вымушаны былі прастойваць пяць прадпрыемстваў — гомельскія заводы хімічнага мелу, пускавых рухавікоў, Калінкавіцкі завод дахавых матэрыялаў, Хойніцкі камбікормавы завод і Петрыкаўскі завод дробных сценавых блокаў.

І яшчэ адна лічба — 21,7 тысячы. Гэта столькі на Гомельшчыне беспрацоўных, якія маглі б уносіць свой уклад у развіццё вытворчасці. Аднак...

Глабальныя прычыны крызісу не толькі ў вобласці, але і ў краіне (і не толькі нашай) агульнавядомыя, і наўрад ці трэба іх паўтараць. Гэта ўжо аксіёма, як аксіёма і тое, што далейшае падзенне вытворчасці можа прывесці не толькі да выбухова-небяспечнай сацыяльна-палітычнай сітуацыі, але і страты навуковага і вытворча-тэхнічнага патэнцыялу, без чаго падняцца пасля на ногі і стаць ва ўвесь рост будзе неймаверна цяжка. І тут вельмі важна аб'яднацца ўсім, як кіраўніцтву рэспублікі, так і на месцах, каб дзейнічаць у адным ключы. Як вядома, даганяць заўсёды цяжка. Але — трэба. І тут галоўнае — нельга ўпусціць час на старце года. Вось чаму з сярэдзіны апошняга месяца 1995 года ў аблвыканкоме, рай- і гарвыканкомах у адпаведнасці з пастаноўкай задач Прэзідэнтам і ўрадам краіны праводзілася абарона планаў і намераў працоўных калектываў на сёлетні першы квартал. Сумарны вынік іх паказвае, што ў прамысловасці вобласці маюцца магчымасці забяспечыць спыненне спаду вытворчасці, а на радзе прадпрыемстваў і галін перавысіць паказчыкі двух мінулых гадоў. У той жа час многае залежыць і ад вышэйшых органаў дзяржаўнага кіравання.

Сур'ёзная размова аб гэтым ішла на сумесным пасяджэнні аблвыканкома і прэзідыума абласнога Савета дэпутатаў з удзелам кіраўнікоў рэспубліканскіх органаў, якое адбылося ў мінулую пятніцу. У звароце да Прэзідэнта, Кабінета Міністраў і Вярхоўнага Савета рэспублікі ўдзельнікі пасяджэння засярodзілі ўвагу на тым, што трэба як мага хутчэй прыняць новы Падатковы кодэкс, які стымуляваў бы работу прадпрыемстваў, распрацаваць і заканадаўча зацвердзіць меры па абароне айчынных вытворцаў тавараў. Было б добра, каб адбылася карэкціроўка асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі з тым, каб забяспечыць рэальнае вырашэнне праблемы неплацяжоў і крэдытавання гаспадарчых суб'ектаў на доўгатэрміновай аснове.

На нарадзе і ў паперах усё было гладка. А як будзе на самай справе? Пачакаем.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## УЛАДЗІМІР КУРАНКОЎ АДХІЛЕНЫ АД ПАСАДЫ МІНІСТРА ПРАМЫСЛОВАСЦІ

23 студзеня на нарадзе ў Кабінеце Міністраў рэспублікі па выніках працы ў мінулым годзе прамысловасці і паліўна-энергетычнага комплексу Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які ўдзельнічаў у ёй, заявіў міністру прамысловасці Уладзіміру Куранкову аб тым, што здымае яго з працы. Матыў — за развал прамысловасці рэспублікі. Пасля гэтых слоў Прэзідэнта У.Куранкоў пакінуў залу, дзе праходзіла нарада.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## ЯЎГЕН ПРЫМАКОЎ НАВЕДАЕ МІНСК З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ

**Па запрашэнню міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Сянько 30-31 студзеня ў Мінску з афіцыйным візітам будзе знаходзіцца міністр замежных спраў Расійскай Федэрацыі Яўген Прымакоў. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведамілі ў аддзеле друку і інфармацыі беларускага МЗС.**

У ходзе перагавораў кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў будзе абмеркаваны шырокі круг пытанняў, звязаных з перспектывамі развіцця беларуска-расійскіх адносінаў. Плануецца, што Яўген Прымакоў будзе прыняты Прэзідэнтам рэспублікі Аляксандрам Лукашэнкам, адбудуцца таксама яго сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім і прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## ПАЗВАНІ МНЕ, ПАЗВАНІ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЦАНУ

**Амаль 2 мільёны асноўных тэлефонных апаратаў налічваецца сёння ў Беларусі. У Міністэрстве статыстыкі і аналізу карэспандэнту БЕЛТА растлумачылі, што іх колькасць за год узрасла на 76,1 тысячы, ці на 4 працэнты. Дамашніх тэлефонаў таксама стала крыху больш.**

Цяпер на 100 гарадскіх сем'яў прыпадае 60 апаратаў, а на такую ж колькасць сельскіх — усяго толькі 27 супраць, адпаведна, 58 і 25 у 1994 годзе. У снежні 1995 года ў параўнанні са снежнем 1994-га тарыфы на паслугі сувязі павялічыліся ў 3,3 раза, у тым ліку абанентная плата за дамашні тэлефон — у 7,2, а за паслугі міжгародняй тэлефоннай сувязі — у 2,4 раза. Але з-за таго, што ўзраслі цэны, нашы суграмадзяне зусім не сталі менш размаўляць. Так, у мінулым годзе на душу насельніцтва прыпадала па 24 міжгароднія размовы, тады як у 1994-м іх было 22,6.

**Наталля МЯШКОВА, БЕЛТА.**

*КРЫК ДУШЫ*

## Застаецца адно: адвесці дзяцей у райвыканком і пакінуць іх там...

**У мяне, адзінокай маці, двое малых дзяцей: дачцэ — 8, сыну — 4 гады. А напісаць вам, паважаная рэдакцыя, прымусілі мяне гора, холад і голад, у якіх мы апынуліся. А як выжыць дзецям, проста не ведаю. Што магла, тое і рабіла для іх выжывання. Усё, што было з мэблі, прадала, усё, што добрае было з посуду, рэчаў, — таксама пусціла на яду. Вось цяпер усё скончылася і няма нікому веры, не бачу выйсця. А дзеці ж ні пры чым, калі няма ў нас тут ніякай улады.**

Апішу ўсё кораценька. Ужо другі год як я не працую і шукаю работу. Езджу на спадарожных машынах у яе пошуках. І ўсюды адзін адказ — няма жылля, шкадуем. Што мне рабіць? Другі месяц абіваю парогі ў райвыканкоме і райсабесе. І тут адзін і той жа адказ: «Пакуль няма жылля, пацярпіце да вясны». Скажыце, а як жыць дзецям? Яны ж есці хочуць! Ледзь не на каленях стаяла я ў намесніка начальніка райвыканкома Е. Кавалёнак. На жаль, пачула несуцяшальны адказ: «Вас многа, а мы адны». Божа, няўжо ўсе такія жорсткія, бессардэчныя, няўжо на гэтых начальнікаў няма ўправы? Няўжо ніхто нам не зможа дапамагчы? Бо мы сапраўды паміраем і з холаду, і з голаду! Мы ж жывём на хутары, адзін дом стаіць сярод поля, за два кіламетры ад калгаса. А цяпер зіма, снег па пояс, моцныя маразы, дроў няма. Як быць? Куды толькі я не звярталася па дапамогу, адзін Бог ведае. Я ж без работы і не атрымліваю на дзяцей ні капейкі. Заўтра адвязу дзяцей у райвыканком і пакіну іх там, у начальнікаў. Няхай гэта будзе жорстка ў адносінах да дзяцей, але іншага выйсця не бачу. Бо дзеці ўжо галадаюць другія суткі! А ў мяне слёзы не высыхаюць, не сплю і сама без яды шостыя суткі. У мяне толькі адна думка — выратаваць дзяцей. А сама... сама не ведаю. Пайду здабываць грошы, толькі якім шляхам, таксама не ведаю. А для мяне галоўнае, каб дзеці былі накормлены. Я ад іх не адмаўляюся, ні за што на свеце! Я ім хачу дапамагчы, і яны мяне, мае дзеткі, не асудзяць, мы добра адно аднаго разумеем. Але я не разумею ў наш час аднаго: каб дзеці паміралі з голаду і з холаду?!

У мяне больш няма ні на што сіл! Маё пісьмо — гэтак крык душы аб дапамозе! Няўжо і вы мне не дапаможаце?! Калі і вы скажыце: «Не можам, пачакайце», тады... тады пакончу я жыццё сваё. Вось такія мае справы. Іншага выйсця ў мяне няма! Дапамажыце!

**Галіна ГУРЧОНАК.**
**хутар Барашкі, Міёрскі раён.**

*ПРАМАЯ ЛІНІЯ*

## Вам адкажа Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ

Роўна два тыдні назад — 10 студзеня — Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь быў абраны С. Г. Шарэцкі. І адразу ж новы кіраўнік парламента акунуўся ў імклівую, шматпраблемную плынь нашай рэчаіснасці. Пленарныя пасяджэнні сесіі, выбары намеснікаў Старшыні ВС, кіраўнікоў парламенцкіх камісій, сустрэчы з кіраўнікамі іншых галін улады, замежнымі гасцямі, выступленні на нарадах, форумах, канферэнцыях — адным словам у жыцці чалавека пачалася новая, насычаная і разнастайная старонка.

Тым не менш, як і раней, гаваркім і даступным застаўся Сямён Георгіевіч для нас, журналістаў. І ў прыватнасці, для журналістаў-«звяздоўцаў». Першае інтэрв'ю С. Г. Шарэцкі даў менавіта самай старэйшай беларускамоўнай штодзённай газеце.

**І вось новая грань супрацоўніцтва: Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкі згадзіўся прыняць удзел у «прамой лініі» з чытачамі «Звязды». Яна адбудзецца 5 лютага з 14 гадзін. У гэты дзень Сямён Георгіевіч адкажа Вам па тэлефонах:**

**68-29-21, 32-38-21.**

**Да 4 лютага папярэдне прымаюцца пытанні да С.Г. Шарэцкага па тэлефоне**

**68-27-40.**

**ПЫТАННІ МОЖНА ДАСЫЛАЦЬ І ПА ПОШЦЕ.**

***Пішыце, тэлефануйце!***
***Вам адкажа Сямён Георгіевіч ШАРЭЦКІ.***

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## Дэпутат, выбірай камісію на свой густ

**Учора пленарнае пасяджэнне сесіі Вярхоўнага Савета як звычайна пачалося з традыцыйнага раздзела «Рознае». У прыватнасці, у ім выступілі Аляксандр Бухвостаў, Ігар Анушкін, Вячаслаў Герасіменка. Яны ўзнімалі самыя розныя праблемы: ад крызісу ў айчыннай прамысловасці да парадку асвятлення работы сесіі.**

Але найбольш цікавым і нечаканым стала выступленне дэпутата Валерыя Шчукіна, які зрабіў дэпутацкі запыт прэм'ер-міністру Міхаілу Чыгіру. Запыт датычыцца сітуацыі, якая апошнім часам склалася ў сістэме Міністэрства адукацыі і навукі з беларускай мовай. Як вядома, згодна з арт. 6 Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» беларуская мова з'яўляецца асноўнай, на якой праводзіцца выхаванне і навучанне ў дзіцячых дашкольных і навучальных установах. Але, як зазначыў сп. Шчукін, палажэнне гэтага артыкула выконвалася толькі да верасня 1995 года, калі міністэрства асноўнай мовай зрабіла рускую, адначасова перавёўшы на рускую мову другія і трэція класы, што ўжо пачалі навучанне на беларускай мове. Свае дзеянні міністэрства тлумачыць вынікамі вядомага рэферэндуму. «Аднак воля большасці, выказаная на рэферэндуме, абавязвае заканадаўцаў унесці змены ў Закон аб адукацыі, але не дае права дзяржаўным чыноўнікам не выконваць гэты закон, — зазначыў Шчукін. — Рэферэндум пацвердзіў канстытуцыйнае права навучацца на рускай мове, але не забараніў усім жадаючым працягваць і пачаць навучанне на беларускай. Закон, які датычыцца правоў чалавека, зваротнай сілы мець не павінен, а таму, нават пры ўнясенні Вярхоўным Саветам 13-га склікання змяненняў у Закон аб адукацыі, правы грамадзян, якія накіравалі сваіх дзяцей у 1992—1994 гадах навучацца на беларускай мове, парушацца не могуць, паколькі іх дзеці, незалежна ад колькасці вучняў, якія засталіся ў класе, павінны навучацца на беларускай мове».

З гэтай нагоды дэпутат Шчукін запатрабаваў адказаць на наступныя пытанні:

Якімі нарматыўнымі актамі кіраваўся міністр навукі і адукацыі Стражаў, калі забараніў настаўнікам, адміністрацыі школ і супрацоўнікам аддзелаў адукацыі агітаваць бацькоў за навучанне іх дзяцей на беларускай мове?

Як будуць аднаўляцца разагнаныя В. Стражавым беларускамоўныя класы?

Калі ў Вярхоўны Савет будзе прадстаўлены праект змяненняў у Закон «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», якія б дазволілі рэалізаваць волю народа, выказаную на рэферэндуме 1995 года?

Якія меры будуць прыняты ў адносінах да чыноўнікаў, што парушылі Канстытуцыю і закон?

Гэтае выступленне выклікала неадназначную рэакцыю ў асяроддзі і дэпутатаў, і назіральнікаў. Бо, як вядома, яшчэ нядаўна супраць навучання на беларускай мове і масіраваную агітацыю за рускую вялі нядаўнія калегі камуністаў па палітычнаму лагеру «Рух за дэмакратыю, сацыяльную справядлівасць і прагрэс». І пакуль нават цяжка сказаць, ці камуністы выступілі ў абарону правоў чалавека, ці — у абарону дзяржаўнай мовы. Таму і тлумачыцца запыт Шчукіна па-рознаму. Адны бачаць у гэтым спробу камуністаў дыстанцыравацца ад бальшавікоў з РДСП, другія расцанілі гэта як прамы «наезд» на Стражава і ўскосна — на Прэзідэнта, трэція бачаць у гэтым жаданне камуністаў набыць новы імідж, падняць свой аўтарытэт заступнікаў народа, у тым ліку і ў вачах тых, хто не можа пахваліцца сімпатыямі да камуністаў.

Пасля «Рознага» дэпутаты пагадзіліся з прапановай намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзя Карпенкі працягнуць працу ў камісіях і фракцыях і разышліся да 16 гадзін. Як сказаў сп. Карпенка, многія дэпутаты яшчэ не вызначыліся і не ўзгаднілі са сваімі фракцыямі, у якіх камісіях збіраюцца працаваць. Таму менавіта для гэтага і спатрэбілася паўза ў пленарным пасяджэнні. Меркавалася, што, ў другой палове дня парламентам будуць зацверджаны намеснікі старшынь камісій, сакратары і старшыні падкамісій, канчаткова сфарміраваны іх састаў. Пасля гэтага дэпутатам застанецца толькі адно кадравае пытанне: давыбраць некалькі членаў Прэзідыума. Учора парламент таксама паспрабаваў спланаваць сваю работу і на сённяшні дзень. Мяркуецца, што дэпутаты сур'ёзна пачнуць абмяркоўваць Дзяржаўны бюджэт на бягучы год. Праўда, наколькі паспяхова яно будзе праходзіць, залежыць ад паступлення матэрыялаў, якія павінен прадставіць Кабінет Міністраў. Праўда, пакуль дэпутаты не валодаюць поўнай інфармацыяй, а знаёмы толькі з часткай прапаноў урада. Не выключана, што зноў будзе ўзнята пытанне аб справаздачы Кабінета Міністраў наконт выканання бюджэту за мінулы год. Як вядома, даклад віцэ-прэм'ера Сяргея Лінга, з якім ён выступіў на сесіі на мінулым тыдні, выклікаў нямала пытанняў і нават абурэнне некаторых дэпутатаў: настолькі павярхоўным і неканкрэтным ён ім падаўся. Сам сп. Лінг прызнаў, што, сапраўды, справаздача з'яўляецца няпоўнай і сфарміравана на аснове ўжо вядомых лічбаў. Адначасова віцэ-прэм'ер нагадаў парламенту, што згодна з заканадаўствам урад мае час да мая.

Тым не менш, перш чым наогул пачынаюць разгляд праекта бюджэту, было б лагічна ўнесці змены ў падатковае заканадаўства. Магчыма, па гэтаму шляху ў выніку і пойдзе Вярхоўны Савет.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

